# Голас Радзімы

№ 8 (1994)
19 лютага 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Чаго толькі не ўбачаць гледачы на выстаўцы, што дэманструецца цяпер у мінскім Палацы мастацтва. У яе экспазіцыі, акрамя жывапісных, графічных і скульптурных твораў яшчэ шмат цікавых і арыгінальных рэчаў. Напрыклад, аўтамабіль ці веласіпед. Яны сканструяваны і зроблены студэнтамі факультэта тэхнічнай эстэтыкі Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Дарэчы, уся выстаўка складаецца з лепшых курсавых і дыпломных работ студэнтаў — цяперашніх і былых. Сапраўднай кузняй кадраў для беларускага мастацтва стаў гэты інстытут, які летась адзначыў свой 40-гадовы юбілей.

НА ЗДЫМКАХ: у зале выстаўкі; Г. КОЛІЙ. Дзіцячы матацыкл; Р. ТАБОЛІЧ. «Маці».





АБМЕН ВОПЫТАМ

## ДЭЛЕГАЦЫЯ З БАЛГАРЫІ

У Мінску знаходзілася дэлегацыя Балгарскага Чырвонага Крыжа на чале з членам яго Цэнтральнага камітэта, старшынёй Сафійскага гарадскога камітэта Чырвонага Крыжа Л. Дзерменджыевай, якая прыбыла ў нашу краіну па запрашэнню Савецкага Чырвонага Крыжа.

Госці пабывалі на Мінскім гадзіннікавым заводзе, дзе азнаёміліся з работай пярвічнай арганізацыі таварыства па прафілактыцы траўматызму сярод рабочых. У сярэдняй школе № 137 ім расказалі аб формах і метадах работы па прапагандзе санітарнагігіенічных ведаў сярод падрастаючага пакалення, аб дзейнасці школьных санітарных пастоў. У рэспубліканскім шпіталі інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны ў Бараўлянах члены дэлегацыі азнаёміліся з работай санітарнага актыву па аказанню медыка-сацыяльнай дапамогі ветэранам вайны і працы.

Гасцям з Балгарыі была прапанавана шырокая культурная праграма.

ЗНАЁМСТВА З ВОБЛАСЦЮ

## ЗАМЕЖНЫЯ ЖУРНАЛІСТЫ НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ

У Магілёўскай вобласці пабывала група акрэдытаваных у Маскве работнікаў сродкаў масавай інфармацыі з Балгарыі, В'етнама, Кітая, Манголіі, Польшчы. Замежныя журналісты знаёміліся з работай прафсаюзных арганізацый.

Яны сустрэліся са старшынёй абласнога савета прафсаюзаў А. Любчанкам. Тэмай зацікаўленай размовы былі пытанні павышэння ролі прафсаюзаў у рэалізацыі планаў сацыяльна-эканамічнага развіцця вобласці, дзейнасці органаў сацыяльнага страхавання, далейшага ўзмацнення клопатаў прафсаюзных арганізацый аб паляпшэнні ўмоў жыцця і працы, ахоны здароўя працоўных Магілёўшчыны.

Замежныя журналісты пабывалі ў працоўных калектывах магілёўскага вытворчага аб'яднання «Хімвалакно», завода «Строммашына», калгаса «Рассвет» імя К. Арлоўскага Кіраўскага раёна, пазнаёміліся з умовамі жыцця і працы рабочых, служачых, калгаснікаў вобласці.

КАДРЫ КАМЕРСАНТАЎ

## ДЫРЭКТАР ВУЧЫЦЦА ГАНДЛЯВАЦЬ

Гандлёва-прамысловая палата БССР арганізавала заняткі па асновах камерцыйнай дзейнасці для інжынераў, тэхнолагаў, дырэктараў некаторых прамысловых прадпрыемстваў нашай рэспублікі, якія атрымалі права самастойна весці экспартна-імпартныя аперацыі з партнёрамі з іншых краін, у тым ліку капіталістычных.

Цяпер Беларусь прадае вырабы тысячы назваў больш чым у сто краін свету. Спецыялісты лічаць, што прамыя знешнегандлёвыя сувязі павысяць экспартныя магчымасці рэспублікі. Але для таго, каб паўней іх выкарыстаць, трэба не толькі павысіць канкурэнтаздольнасць прадукцыі, але і навучыцца лепш гандляваць, прычым гандляваць прыбыткова, умела распараджацца валютнымі даходамі.

Разам з прадстаўнікамі заводаў за парты селі супрацоўнікі міністэрстваў, Акадэміі навук БССР, вышэйшых навучальных устаноў, іншых арганізацый. Створаны тры аддзяленні: для кіраўнікоў, апаратыўных работнікаў і фінансістаў. Заняткі вядуць выкладчыкі Маскоўскага дзяржаўнага інстытута міжнародных адносін.

РОБАТЫ НА БУДОЎЛЯХ

## КАНКУРЭНТ ТЫНКОЎШЧЫКА

Яго рэкамендаваў для прамыслова га ўкаранення Дзяржбуд БССР. Гэты маніпулятар-абліцоўшчык сцен паспяхова прайшоў выпрабаванні, дапамагаў будаўнікам пры нанясенні маналітнага тынковачнага слою, а таксама пры ўзвядзенні маналітных перагародак.

Робат-тынкоўшчык — гэта шасі, на якім змантіраваны прывад і накіроўваючая стойка. На стойку з дапамогай паўзуна навешваецца шчыт спецыяльнай канструкцыі, пад які падаецца тынкавальная сумесь. Шчыт прыводзіць у рух ланцуговы прывод. Прыстасаванне гэта простае і таннае. Яно дазваляе ў тры-чатыры разы павысіць прадукцыйнасць працы.

Немалаважна таксама, што такі робат, на думку арганізатараў экспазіцыі павільёна «Будаўніцтва» на ВДНГ СССР (дзе прадстаўлены адзін з іх), можна самастойна вырабіць на любой буйной будоўлі. У бягучай пяцігодцы на будаўнічых пляцоўках Беларусі прадугледжана ўкараненне 50 такіх робатаў-тынкоўшчыкаў. Паводле ацэнак спецыялістаў, гэта забяспечыць мільённы эканамічны эфект.

УЗНАГАРОДЫ

## ПРАЗ СОРАК ГАДОЎ...

Ва ўрачыстай абстаноўцы аўтаэлектрыку Бярозаўскай райагрпрамтэхнікі, што на Брэстчыне, Вячаславу Пазняку былі ўручаны адразу чатыры баявыя ўзнагароды Польскай Народнай Рэспублікі — бронзавы медаль «Заслужаным на Полі Славы», медалі «За Одэр, Нісу, Балтык», «Перамогі і Свабоды», і «Знак Грунвальда».

Васемнаццацігадовы юнак быў прызваны на службу ў армію ўжо пасля вызвалення Бярозаўшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і ў саставе Войска Польскага ўдзельнічаў у разгроме гітлераўцаў на іх тэрыторыі, а затым у ліквідацыі нацыяналістычных банд на тэрыторыі ПНР.

Толькі праз сорак гадоў узнагароды ўпрыгожылі грудзі ветэрана, які, нягледзячы на пенсійны ўзрост, працягвае працаваць на вытворчасці.

СЕЛЬСКІЯ НАВІНЫ

## ЗІМНІЯ ПРАФЕСІІ ПАЛЯВОДАЎ

На зімні сезон паляводы калгаса імя Сквар[illegible]а і Маёрава, што ў Старадарожскім раёне, змянілі свае прафесіі. Па дамоўленасці з праўленнем гаспадаркі Старадарожскае швейнае аб'яднанне адкрыла ў вёсцы Языль свой філіял. Калгас выдзеліў пад цэх прасторнае памяшканне, швейнікі змантіравалі абсталяванне, завезлі неабходную сыравіну. Інжынер-тэхнолаг вучыць калгасніц новай спецыяльнасці. У міжсезонне яны будуць шыць халаты, рукавіцы і пакрывалы.

Падобных вытворчасцей у гаспадарках Мінскай вобласці ўжо больш за восемдзесят. Гэта кансервавыя заводы, цэхі па выпрацоўцы абястлушчанага малака, цяпліцы. Шырокае развіццё атрымлівае кааперацыя з прамысловымі прадпрыемствамі, у філіялах якіх жыхары вёсак робяць нескладаныя тэхнічныя дэталі і прыстасаванні.

Сёлета падсобныя цэхі плануецца адкрыць яшчэ ў 20 гаспадарках вобласці.

ГАРАНТУЕ ПРЫБОР

## АЦЭНЬВАЕ ЯКАСЦЬ

Самую дакладную ў краіне ацэнку якасці прадукцыі металургаў і металаапрацоўшчыкаў, машынабудаўнікоў гарантуе прыбор, выпуск якога пачынае завод «Эталон».

Гэта вымяральнік удзельнай электраправоднасці, стваральнікамі якога сталі навуковыя супрацоўнікі Беларускага рэспубліканскага цэнтра метралогіі і стандартызацыі Я. Палеес і А. Іванюкоў. Па рашэнню Дзяржстандарту СССР менавіта гэтым прыборам будуць правярацца ўсе вымяральнікі ўласцівасцей немагнітных металаў, якія выкарыстоўваюцца ў народнай гаспадарцы.

ПРАМЫСЛОВЫЯ АБ'ЕКТЫ

## НА ПРАЕКТНУЮ МАГУТНАСЦЬ

Выведзена на праектную магутнасць чацвёртая чарга Мазырскага завода кармавых драждэй. Цяпер прадпрыемства штогод будзе даваць такую колькасць бялагічна актыўных канцэнтратаў, якая заменіць мільён трыста тысяч тон фуражнага зерня. Яшчэ ў ходзе мантажу абсталявання ў яго канструкцыю спецыялісты завода ўнеслі змяненні, якія дазволілі давесці прадукцыйнасць да ўзроўню лепшых сусветных узораў, істотна скараціць перыяд пуску-наладкі.

ДА НАШАГА СТАЛА

## РАЎНАЗНАЧНА ЗАВОДУ

Пасля рэканструкцыі Гродзенскі хлебазавод пашырыў асартымент кандытарскіх вырабаў на бялкова-арэхавай, пясочнай і традыцыйнай бісквітна-крэмавай аснове. Паявілася ў мясцовых пекараў і магчымасць асвоіць выпечку такіх папулярных сартоў хлеба палепшанай якасці, як «сталічны», «расійскі», «дарніцкі». 25 тон прадукцыі ў суткі — такая магутнасць новага цэха, які пачаў дзейнічаць у горадзе.

Набіраюць сілу і іншыя прадпрыемствы абласнога вытворчага аб'яднання хлебапякарнай прамысловасці. Дзякуючы комплекснай механізацыі і аўтаматызацыі ўдвая ўзраслі магутнасці Ваўкавыскага хлебазавода. Вядзецца рэканструкцыя такіх прадпрыемстваў у Навагрудку, Слоніме, сёлета яна пачнецца ў Лідзе. За апошнія пяць гадоў магутнасці хлебапякарнай прамысловасці ў вобласці павялічаны за кошт тэхнічнага абнаўлення ў паўтара раза, што раўназначна ўводу ў строй яшчэ аднаго буйнога завода.

АХОВА ЗДАРОЎЯ

## ЗАПРАШАЕ ПРАФІЛАКТОРЫЙ

Праводзяць вольны час з карысцю для здароўя дзесяткі супрацоўнікаў навукова-даследчага інстытута «Агат» у нядаўна адкрытым санаторыі-прафілакторыі. Будынак узведзены па індывідуальнаму праекту і ўдала ўпісваецца ў лясны масіў урочышча Крыжоўка, што пад Мінскам.

Па свайму профілю гэта лячэбна-аздараўленчая ўстанова. Адсюль літаральна за паўгадзіны камфартабельных аўтобусы дастаўляюць людзей на месцы работы. Што датычыць тэхнічнай аснашчанасці кабінетаў, то ў іх самае сучаснае медыцынскае абсталяванне. Ёсць тут выдатная зала лячэбнай фізкультуры, прасторная сталовая, бібліятэка, лыжная база. З санаторыя «Крыніца», размешчанага непадалёку, сюды ў хуткім часе будзе паступаць мясцовая мінеральная вада. У перспектыве ў прафілакторыі для супрацоўнікаў інстытута намечана наладзіць групавое лячэнне ультрафіялетам, устанавіць гразевыя ванны.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

МІНСК. 1 636 сем'яў сталі жыхарамі новага мікрараёна беларускай сталіцы — Паўднёвы Захад-5.

Будаўнікі Мінскага вытворчага аб'яднання індустрыяльнага домабудавання вядуць забудову жылога масіву комплексна. Акрамя жылых дамоў пабудаваны дзіцячы сад і школа.

ШЧУЧЫН. Буйным пастаўшчыком племяннога маладняку стане селекцыйна-гібрыдны цэнтр, першая чарга якога ўступіла ў строй у саўгасе-камбінаце «Васілішкаўскі».

АШМЯНЫ. Новы гандлёвы цэнтр запрасіў за пакупкамі жыхароў вёскі Жупраны. У прасторным двухпавярховым будынку размясціліся прадуктовы і прамтаварны магазіны, сталовая.

ГРОДНА. Сацыяльная база гарадскога аўтакамбіната папоўнілася універсальным спартыўным комплексам. Пабудаваны ён на сродкі прадпрыемства.

НАВАГРУДАК. Новым экспанатам папоўнілася нядаўна экспазіцыя Дома-музея Адама Міцкевіча. Жыхар вёскі Гайцюнішкі Воранаўскага раёна В. Гурыновіч падарыў рэдкую кнігу «Пісьмы Адама Міцкевіча», выдадзеную ў Варшаве ў 1858 годзе.

Зараз у фондах музея звыш трох тысяч экспанатаў. Летась у музеі пабывала больш як пятнаццаць тысяч чалавек з розных куткоў нашай Радзімы, а таксама з Польшчы, Індыі, Манголіі, Афганістана.

ФОТАРЭПАРТАЖ





Работу камбіната грамадскага харчавання Мінскага вытворчага аб'яднання «Гарызонт» вызначаюць хуткасць абслугоўвання, максімум зручнасцей, высокая якасць прыгатавання страў і іх разнастайнасць. За час перапынку тут паспявае паабедаць да дзвюх з палавінай тысяч чалавек. Прычым, кожны рабочы затрачвае не больш дзесяцідванаццаці мінут.

У працэсе праведзенай рэканструкцыі пры абсталяванні камбіната грамадскага харчавання была выкарыстана самая сучасная тэхніка. Па прыкладу рыжскага завода ВЭФ укаранілі жэтонную сістэму, дысплеі і прамысловае тэлебачанне. Устаноўленыя ў залах камеры дазваляюць дыспетчару апаратыўна карэкціраваць работу персаналу.

НА ЗДЫМКАХ: у зале комплексных абедаў камбіната. Спецыяльныя кабіны памагаюць стварыць адчуванне спакою. Тут можна добра адпачыць, зняць напружанне; салатны бар комплексу прапануе смачныя, прыгожа афармленыя express кактэйлі-салаты з вяндліны, грыбоў, птушкі, гародніны.

## ПЕРАБУДОВА ВЫШЭЙШАЙ ШКОЛЫ

# РЭФОРМА І ШЛЯХІ ЯЕ РЭАЛІЗАЦЫІ

У нашай рэспубліцы 33 вышэйшыя і 139 сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Яны рыхтуюць спецыялістаў па 400 прафесіях. Натуральна, што праблемы рэформы вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы нас вельмі хвалююць.

Першая з праблем — набліжэнне навучання да патрабаванняў вытворчасці. Нядаўна ва ўсіх тэхнікумах і вучылішчах уведзены курс «Асновы інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі». А ў вышэйшых навучальных установах адпаведнага профілю пачалі выкладаць новыя дысцыпліны: «Радыётэхніка», «Вытворчасць прамысловых робатаў», «Эксплуатацыя прамысловых робатаў». Аднак з усіх перамен, звязаных з рэформай, гэтая — увядзенне новых курсаў — бадай, самая простая (што, зразумела, не азначае лёгкая: распрацаваць новы курс таксама дастаткова складана).

Праблема другая — максімальна скараціць і аблягчыць перыяд адаптацыі маладога спецыяліста на вытворчасці. Для гэтага перш за ўсё неабходна змяніць сам працэс навучання. У нашых інстытутах і тэхнікумах усё шырэй прымяняюцца дзелавыя гульні, мадэліраванне вытворчых, планавых, кіраўніцкіх сітуацый. Звычайнай справай становяцца заняткі непасрэдна на вытворчасці — у цэхах заводаў, на калгасных палях. На буйных прадпрыемствах і ў навучальных установах створана ўжо 40 інстытуцкіх кафедр: заняткі на іх вядуць не толькі выкладчыкі, але і заводскія спецыялісты. Больш за сто вытворчых аб'яднанняў супрацоўнічае цяпер з нашымі інстытутамі і тэхнікумамі. Гэта дазваляе максімальна набліжаць працэс навучання да вытворчасці.

Праблема трэцяя — як выхаваць спецыяліста работнікам творчым, здольным хутка ўключацца ў вырашэнне канкрэтных вытворчых задач. Для гэтага цяпер у навучальных установах змяншаецца колькасць лекцыйных гадзін — большы акцэнт робіцца на самастойную падрыхтоўку студэнтаў. Новыя веды будуць замацоўвацца на семінарах і практычных занятках.

Адна з нашых задач заключаецца ў тым, каб развіць у студэнта жаданне весці навуковы пошук, займацца самастойнай даследчыцкай работай. Цяпер мы плануем значна расшырыць удзел студэнтаў у навуковых даследаваннях, у выкананні канкрэтных заданняў прадпрыемстваў. Мяркуецца, што беларускія навучальныя ўстановы будуць працаваць па 150 агульнасаюзных, рэспубліканскіх, акадэмічных, галіновых, мэтавых і навукова - тэхнічных праграмах. Павялічыцца колькасць тэм, найбольш важных для народнай гаспадаркі, такіх, напрыклад, як новыя тэхналогіі, павышэнне прадукцыйнасці працы, павышэнне якасці прадукцыі.

З мэтай хуткага і маштабнага ўкаранення ў вытворчасць студэнцкіх распрацовак (студэнты абавязкова павінны бачыць вынікі сваёй працы!) мы плануем значна мадэрнізаваць канструктарска - тэхналагічную і доследна - вытворчую базы вышэйшых навучальных устаноў. Будуць створаны інжынерныя цэнтры: па машынабудаванню — у Беларускім політэхнічным інстытуце, па мікраэлектроніцы — у Мінскім радыётэхнічным, па комплекснаму выкарыстанню драўніны — у Беларускім тэхналагічным.

Вядома, для таго, каб уся гэтая работа была сапраўды эфектыўнай, патрабуецца і матэрыяльна - тэхнічнае пераасnашчэнне інстытутаў, тэхнікумаў, вучылішчаў. І ў гэтым напрамку прымаюцца меры. Нашы навучальныя ўстановы атрымалі сучасныя станкі з лічбавым праграмным кіраваннем, робаты і робататэхнічныя комплексы, найноўшыя прыборы і абсталяванне. У бягучай пяцігодцы (1986 — 1990 годы) мы плануем на гэтыя мэты затраціць 150 мільёнаў рублёў, а к 2000 году — 400 мільёнаў.

Аднак уся гэтая перабудова, відаць, немагчыма без новых патрабаванняў і да таго, хто хоча вучыцца, і да таго, хто вучыць. Мы, у прыватнасці, намячаем шэраг мер па паляпшэнню прафесіянальнай арыентацыі школьнікаў: будучыя студэнты павінны прыходзіць да нас, дакладна ведаючы, якая менавіта праца чакае іх пасля атрымання дыплома. Лепш арыентавацца ў выбары прафесіі павінна дапамагчы і практыка накіравання на вучобу калгасамі, заводамі сваіх работнікаў, якія маюць працоўны стаж і вернуцца потым у тыя ж калектывы. Вопыт такі ў нас у краіне і ў рэспубліцы быў і раней, і мы хочам расшырыць яго. Цяпер некаторыя тэхнікумы заключаюць з заводамі дагаворы на падрыхтоўку спецыялістаў з сярэдняй адукацыяй.

Больш складанае [illegible]нне — пераарыентацыя на[illegible]ова-выкладчыцкага саставу. На жаль, некаторыя выкладчыкі пакуль яшчэ не мяняюць метады працы: мала ўносяць творчасці ў працэс навучання, недастаткова ўважліва сочаць [illegible]апошнімі дасягненнямі ў [illegible]ы. Наша міністэрства распрацавала план перападрыхтоўкі: для выкладчыкаў уводзяцца новыя спецкурсы і спецсемінары па важнейшых праблемах навукі і тэхнікі.

Для эфектыўных заняткаў таксама немалаважна, у якіх умовах жывуць студэнты, як наладжаны іх быт. Перабудова закранае і гэты бок жыцця навучальных устаноў. З жыллём для студэнтаў у нас у рэспубліцы пытанне вырашана. Уся моладзь, якая прыехала з вёсак і іншых гарадоў у Мінск, Гомель, Магілёў, Брэст, Гродна, можа разлічваць на студэнцкі інтэрнат. Але многае трэба зрабіць для павышэння ўзроўню камфорту студэнцкага жылля.

Нарэшце, вельмі важная праблема, аб якой таксама ідзе гаворка ў новай рэформе, — арганізацыя вольнага часу студэнтаў. Ёсць у нас спартыўна-аздараўленчыя лагеры: там пабываў кожны другі студэнт. Але вось стадыёнаў, басейнаў пакуль не хапае. Да 2000 года мы плануем пабудаваць яшчэ некалькі спартыўных комплексаў агульнай плошчай каля 140 тысяч квадратных метраў і 9 новых плавальных басейнаў. Плануем у шасці абласных цэнтрах Беларусі, дзе ёсць свае інстытуты, пабудаваць Палацы культуры студэнтаў. Звярнуліся ў рэспубліканскі Савет Міністраў з просьбай выдзеліць нам для гэтага 22 мільёны рублёў.

У час абмеркавання праекта рэформы стала ясна, што яна закранае мноства праблем. Наша міністэрства атрымала ад выкладчыкаў і студэнтаў больш за тысячу прапаноў. Усе яны старанна вывучаны, прааналізаваны, абагульнены, а многія ўжо і ўкараняюцца.

**Сігізмунд МАЛЕВІЧ,**
**намеснік міністра вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі Беларускай ССР.**





# БЯЛОК З МІКРААРГАНІЗМАЎ

**Бясконца малымі істотамі, якія адыгрываюць у прыродзе бясконца вялікую ролю, назваў мікробы заснавальнік мікрабіялогіі Луі Пастэр. Яны выпрацоўваюць лякарствы, павышаюць урадлівасць глебы, ачышчаюць вадаёмы, пры звычайнай тэмпературы «выплаўляюць» метал, павышаюць трываласць бетону. З дапамогай мікробаў ажыццяўляецца вытворчасць каштоўных кармавых дабавак у рацыён сельскагаспадарчых жывёл. Мікрабіялагічная прамысловасць наладзіла масавы выпуск бялкова-вітамінных канцэнтратаў, лізіну, прэміксаў і іншых прадуктаў. У чым перавага спосабу атрымання бялку з дапамогай мікраарганізмаў! У тым, што мікробы ў тысячу разоў (!) хутчэй утвараюць бялок уласнага цела, чым, напрыклад, самыя высокаўраджайныя сельскагаспадарчыя расліны. Да таго ж, каб стварыць такі бялок, выкарыстоўваюцца адходы — сыроватка, пілавінне, салома, нават сцёкавыя воды. Вучонымі Інстытута мікрабіялогіі Акадэміі навук БССР распрацаваны шэраг кармавых прадуктаў для жывёлы. Адна тона бія-ЗЦМ дазвал[illegible] з'эканоміць для харча[illegible] восем тон малака. [illegible]рэпарат «промікс» скарачае на 20—25 дзён тэрмін адкорму свіней.**

**Прымяненне мікраарганізмаў для вытворчасці кармавых прадуктаў — не адзіная сф[illegible]а прыкладання сіл вучон[illegible]ёння яны шукаюць шл[illegible], каб з дапамогай нябачных «жывых звяркоў» уплываць і на ўраджайнасць у раслінаводстве. Велізарнае значэнне тут мае так званы працэс азотафіксацыі, г. зн. накапленне ў глебе азоту. Натуральным шляхам гэтаму садзейнічаюць бактэрыі, якія здабываюць азот з паветра і такім чынам узбагачаюць глебу. Але для падтрымання ўрадлівасці зямлі гэтага недастаткова. Даводзіцца прымяняць шмат хімічных угнаенняў. Аднак з дапамогай бактэрый генная інжынерыя здольна прымусіць такія культуры як пшаніца, жыта або кукуруза, самім здабываць азот, узбагачаючы ім глебу.**

**Да ліку найбольш важных праблем, якія вырашаюць сёння вучоныя мікрабіёлагі, можна аднесці пошукі, вывядзенне і стварэнне (метадамі геннай інжынерыі) новых відаў мікраарганізмаў для выкарыстання ў народнай гаспадарцы. Працягваюцца даследаванні зменлівасці і спадчыннасці мікробаў, што дапамагае ўнесці яснасць у многія раздзелы генетыкі, медыцыны, біялогіі і іншых навук.**

**НА ЗДЫМКАХ: загадчык лабараторыі Я. РАМАНАВЕЦ і інжынер В. КОНТРАВА ў час доследаў на тэхналагічнай устаноўцы; гэтая біямаса выдатна зарэкамендавала сябе пры адкорме птушкі, рыбы, пушных звяроў; эксперымент праводзіць інжынер-тэхнолаг І. ДЭМБІЦКАЯ.**

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**

# ЦЫГАРЭТА АБО ПРЭМІЯ?

Прэмію для тых, хто не курыць, устанавіла праўленне калгаса «Рассвет» імя К. Арлоўскага. У канцы года па сто рублёў будзе выплачана кожнаму мужчыну, які або ніколі не захапляўся тытунём, або адмовіцца ад гэтай шкоднай прывычкі.

На такі крок праўленне гаспадаркі вырашыла пайсці па рэкамендацыі медыцынскай службы калгаснага санаторыя-прафілакторыя. Пасля абследавання працаўнікоў урачы ўстанавілі, што курцы, а яны складаюць 54 працэнты работнікаў, часцей за ўсё хварэюць. Падлічылі таксама, што затраты на барацьбу з курэннем акупяцца ў некалькі разоў толькі за кошт эканоміі, якую калгас атрымае дзякуючы скарачэнню выплат па часовай непрацаздольнасці і ліквідацыі «перакураў» на рабочых месцах.

— Мы прымяняем усе сучасныя метады дыягностыкі і лячэння,— гаворыць галоўурач калгаснай здраўніцы В. Кавалеўскі.— Стварылі кабінеты дыягностыкі, фізія- і іголкатэрапіі, практыкуем цепла- і водалячэнне, выкарыстоўваючы дзве крыніцы мясцовых мінеральных вод. Прымяняем мы і лекавыя травы 17 відаў—іх вырошчваем ва ўласным гадавальніку, дзе заклалі і плантацыю жэньшэню. Для аматараў папарыцца ёсць руская і фінская лазні, плавальны басейн з марской вадой.

Як стацыянар наша здраўніца дзейнічае ў асенне-зімовы сезон. За гэты час тут па бясплатных пуцёўках папраўляюць здароўе чатырыста працаўнікоў гаспадаркі. Летам аддаём памяшканні пад піянерскі лагер для дзяцей калгаснікаў. Але і ў гэты час лячэбная і прафілактычная работа не спыняецца. Урачэбная група штодзённа выязджае на фермы, палявыя станы, у трактарныя брыгады і іншыя вытворчыя падраздзяленні, дзе праводзіць агляды, бясплатна выдае лякарствы. Усё гэта дало магчымасць толькі за апошнія тры гады знізіць захворванне калгаснікаў на 25 працэнтаў.

«Рассвет», які паспяхова выконвае дзяржаўныя заданні па вытворчасці ўсіх відаў прадукцыі, штогод накіроўвае звыш двух мільёнаў рублёў са свайго даходу на рэалізацыю сацыяльна-культурнай праграмы.

**М. НАЗАРОВІЧ.**

# ВОСПОМИНАНИЯ О КУРСАХ

**Осенью прошлого года в Минске работали курсы, на которых занимались наши соотечественники из Бельгии, Голландии, Италии, совершенствуя свое исполнительское мастерство. Среди приглашенных Белорусским обществом «Радзіма» был и бельгиец Эрнест Вюфф, муж нашей землячки Галины Шаповаленко. Уже много лет участвует он в художественной самодеятельности Союза советских граждан в Бельгии, всем сердцем полюбил русские народные песни, песни советских композиторов.**

**В Минске Эрнест Вюфф чувствовал себя, как на родной земле. С удовольствием знакомился с городом, с культурой белорусского народа, встречался с людьми, наблюдал нашу жизнь. У него остались очень хорошие впечатления, он выучил новые песни, которые пел на прощальном вечере и увез с собой в Бельгию.**

**Недавно в редакцию «Голасу Радзімы» от Эрнеста Вюффа пришло письмо на французском языке. В конверт был вложен и перевод его. Это Галина Шаповаленко перевела воспоминания мужа о пребывании в Минске на русский язык. В письме была также просьба опубликовать их в нашей газете, что мы и делаем с удовольствием.**

**Свои впечатления о курсах, о поездке в Белоруссию присылают и другие земляки. Их мы тоже предлагаем вниманию читателей.**

## ДО НОВЫХ ВСТРЕЧ

Минск — город-герой, город славной истории, не раз возрождавшийся из пепла и хорошеющий с каждым днем. Таким он запомнился мне. Таким я хочу видеть его и при следующей встрече.

Ранним сентябрьским утром прошлого года мы впервые ступили на землю этого прославленного города. По приглашению Белорусского общества «Радзіма» мы провели три недели на курсах повышения квалификации руководителей коллективов художественной самодеятельности. Организованы они были прекрасно. Нас окружили заботой и вниманием, и было сделано все, чтобы наше пребывание в Минске было полезным, приятным и интересным. Мы были очень тронуты таким сердечным приемом. И я хочу от имени всех моих товарищей из Бельгии выразить нашу бесконечную благодарность Белорусскому обществу «Радзіма».

Цель нашей поездки — совершенствование знаний и навыков в области музыки, теоретическое и практическое изучение народных и советских песен и танцев. В Республиканском институте повышения квалификации работников культуры мы очень многому научились.

Признаюсь, что ехали мы на курсы с некоторым опасением. Ведь уже столько лет, как мы окончили школу. А я еще и со страхом думал о слабом знании языка. Но когда нас тепло и сердечно, как старых знакомых, встретила работник института Валентина Алексеевна, все сомнения мигом исчезли.

Знания, энтузиазм и общительность преподавателей создавали атмосферу взаимопонимания, и все уроки были очень интересными. Я стал лучше понимать советскую культуру, ее истоки, неразрывную связь с творчеством народа.

Считаю, что нас удостоили особой чести, предоставив возможность присутствовать на репетициях профессиональных и самодеятельных коллективов.

Из прекрасных музеев Минска, которые мы посетили, на меня самое большое впечатление произвел музей Великой Отечественной войны. История войны, ужасы, принесенные ею на эту землю, мужество и героизм советских людей показаны здесь со всей суровой правдивостью. Многие экспонаты вызывают чувство скорби за людские страдания, у[illegible]ения, как люди могли все это вынес[illegible] тревоги за то, что существует реальная возможность еще более страшной войны.



На одной из красивейших площадей Минска возвышается монумент в честь Победы в Великой Отечественной войне. Каждый р[illegible] проходя мимо, мы поражались серь[illegible]сти совсем юных парней и девушек, [illegible]ящих здесь в почетном карауле. Они не видели войны, но знают и помнят тех, кто отдал жизнь за их счастье. Мне вспоминаются слова из разученной в Минске песни на слова поэта М. Ясеня:

«Серые камни, свинцово тяжелые камни.  
Русскому сердцу как много они говорят.  
Где-то далеко над ними колышутся пальмы,  
Где-то березы шумят.

Люди! Пред ними вы головы низко склоните.  
Люди! Молчаньем их светлую память почтите.  
Тех, кто насмерть стоял,  
Кто нам жизнь отстоял,  
Кто нам мир на земле завещал».

Память о павших глубоко чтят в этой стране. Люди здесь знают, как ужасна война. Все искренне хотят мира и делают все для его сохранения. Здесь особенно остро осознаешь, что и нам сегодня нельзя оставаться в стороне, что все честные люди в разных странах должны объединить свои силы, чтобы не допустить повторения Хатыни, Лидице, Орадура, Бухенвальда и многих, многих других трагедий, вписанных в историю войн кровью народов. Будем вместе бороться за мир!

Минск сегодня — чудесный, красивый город. Жителей старых европейских городов он особенно привлекает своим простором, размахом улиц и площадей, обилием зелени. Здесь много парков и скверов с памятниками известным белорусским ученым, писателям, героям войны, немало современных скульптурных композиций работы местных авторов. В Минске много театров, кинотеатров, концертных и спортивных залов, стадионов. А это и есть достижения народа в области культуры. Веде[illegible]я и интенсивная реконструкция стар[illegible] кварталов.

Жители города, [illegible] мы убедились, очень душевные и радушные люди. И мы, делегация из Бельгии, хотим пожелать белорусам успехов во всех областях жизни, благополучия и счастья, а главное, мира на нашей планете.

Три недели прошли. Ранним утром на перроне, где мы жд[illegible] поезд, который увезет нас в Бельги[illegible], мы видели минчан с рюкзаками и корзинками. Они спешили на электричках за город, за грибами и ягодами. Вот таким мирным и полным поэзии мы оставляли Минск. Таким мы хотим его увидеть и в наш следующий приезд. Не знаю, когда это будет, но будет обязательно.

**Эрнест ВЮФФ.**

Бельгия.

## ДВАДЦАТЬ ДНЕЙ В МИНСКЕ

Надолго останется у нас в памяти поездка в Минск. Встретив нас на вокзале, референт Общества «Радзіма» проводил в гостиницу «Планета», которая была нашим домом в течение 20 дней. На занятия мы ездили в Республиканский институт повышения квалификации работников культуры, они проводились ежедневно с 9 часов утра до 13, кроме выходных.

На курсах мы многому научились, многое узнали. Нам читали лекции о повышении уровня благосостояния советского народа, обо всем новом, что происходит сейчас в стране. Ближе познакомились с Белоруссией, с ее культурой, народными обрядами и обычаями. Работники Общества «Радзіма» сделали все возможное, чтобы наше пребывание в Минске было как можно более интересным и запоминающимся. Побывали мы во многих музеях столицы Белоруссии: в художественном музее, музее Великой Отечественной войны, музее Янки Купалы, Государственном музее БССР... Смотрели выступление ансамбля «Святата», были приглашены на II Всесоюзный фестиваль народного творчества, присутствовали на репетиции хора Белорусского радио и телевидения.

Не можем без волнения вспоминать поездку в Хатынь. Со слезами на глазах и с болью в сердце смотрели мы на эту многострадальную землю, и невольно память возвращала нас в то далекое и трагическое прошлое, когда первые орудийные залпы возвестили о начале войны, когда вывезенные из родных мест, мы горько оплакивали свои судьбы на чужбине. Пусть же никогда ни дети, ни внуки наши не узнают трагедии военных лет, никогда не испытают ужасов, которые принесла людям война.

Наше пребывание в Белоруссии близилось к концу. Для всей нашей группы был устроен прощальный вечер. Мы от всей души поблагодарили представителей Общества «Радзіма» за радушный прием, который мы испытывали в течение всех 20 дней.

На вечере нам были вручены удостоверения, свидетельствующие о том, что мы закончили курсы по повышению квалификации работников культуры в группе представителей прогрессивных организаций зарубежных соотечественников. Грустно было на душе от приближающейся разлуки с Родиной, но и радостно от сознания, что приобрели новых друзей, сами еще больше сблизились и сдружились между собой и, конечно, от того, что почти 3 недели провели на родной земле.

За все это большое спасибо Обществу «Радзіма», Центральному правлению ССГ и отделу ССГ г. Шарлеруа.

**Людмила КУДРЯВЦЕВА,**
**Нина ДЮНДИКОВА.**

Бельгия.



*НА ПРОСТОРАХ РОДИНЫ*

## ЛАЗЕРЫ УКАЗЫВАЮТ ПУТЬ КОРАБЛЯМ

**В Институте оптики атмосферы Сибирского отделения Академии наук СССР (Томск) разработаны лазерные маяки, призванные облегчить навигацию в местах интенсивного движения судов. Они уже запатентованы во Франции и ФРГ.**

Традиционные маяки, створы, различные буи на лампах накаливания имеют ряд недостатков, самый существенный из которых — зависимость расстояния, на котором виден свет, от погоды. Лазерный же луч имеет высокую направленность, и его видимость практически не зависит от метеорологических условий. И еще одно обстоятельство, которое, собственно, и подтолкнуло к созданию лазерных маяков. Ученые Института оптики атмосферы в ходе своих фундаментальных исследований обнаружили так называемый эффект сохранения контрастности узких лазерных пучков. Суть его в том, что контраст (то есть разница между яркостью прямого излучения источника сигнала и фоном, скажем, рассеянным дневным светом) лазерного луча сохраняется на значительно больших дистанциях, чем у традиционных ламп накаливания.

После того как этот эффект был обнаружен, в институте специально для целей навигации создали малогабаритный импульсный лазер МИЛАН-М, работающий на парах меди. Он компактен, удобен в обслуживании, имеет больший ресурс, может быть применен в автоматических системах. Кстати, кроме навигации МИЛАН-М эффективен и для просвечивания как атмосферы, так и морских глубин, его можно использовать в авиации — для указания самолетам глиссады (траектории снижения) на посадку. Применим он и в сельском хозяйстве.

Первое навигационное устройство, изготовленное в стенах Института оптики атмосферы, было испытано осенью 1971 года. Убедившись в перспективности избранного направления, ученые в дальнейшем подключили к работе инженеров специального конструкторского бюро «Оптика». Сейчас институт объединен вместе с СКБ в единый научно - технический комплекс. В результате была разработана серия оригинальных приборов для проводки морских и речных судов. В настоящее время совместно с предприятиями Министерства морского флота СССР ведется переоснащение сети маяков Северного морского пути. В новых навигационных устройствах использовано много оригинальных технических решений, которые защищены более чем тремя десятками авторских свидетельств на изобретения, а за рубежом на них получены патенты в ФРГ и Франции.

Новое оборудование уже хорошо зарекомендовало себя в Арктике. Оно ярко — в прямом смысле этого слова — продемонстрировало свое преимущество перед традиционными системами. Эксплуатация лазерных маяков в арктических портах Игарка, Дудинка и Диксон показала, что экономическая эффективность только от первых 10 устройств, установленных в самых «горячих точках» северных морей, составляет в год почти полтора миллиона рублей.

Тем временем в научно - техническом комплексе Томска был разработан еще более совершенный, двухцветный лазерный маяк. Прототип его демонстрировался на Лейпцигской международной ярмарке и был удостоен там золотой медали.

**Виктор НИЛОВ.**
(АПН).

№ 8 (1994), 19 лютага 1987 г.

**Жыццё вёскі, маленства, пошук маладым чалавекам сэнсу і мэты жыцця — тэмы ранніх апавяданняў вядомага беларускага празаіка Вячаслава Адамчыка. Пазней ён засяродзіўся на адлюстраванні жыцця ў былой Заходняй Беларусі. Гэтай тэме прысвечаны і першы раман пісьменніка «Чужая бацькаўшчына» («Год нулявы» і «Скажа той, хто народзіцца» — яго працяг), за які яму была прысуджана Літаратурная прэмія імя І. Мележа.**

**Тры гэтыя раманы з'яўляюцца часткамі аднаго цыкла пра заходнебеларускую вёску. Яны напісаны з думкаю пра беларускі народ, пра яго складаны, часам трагічны лёс. Жыццё беларусаў у творы паказваецца, як адно вялікае і агульнае дзеянне, у якім прымаюць удзел многія, усе разам і кожны паасобку. В. Адамчык раскрывае сацыяльныя з'явы знутры, праз побыт, праз нярадасную, духоўна глухую і скамечаную будзённасць. Кола жыццёвых інтарэсаў сялян звужана да крайнасці: гаспадарчыя клопаты, бытавыя нелады, сваркі, плёткі, забабоны... Верасаўцы жывуць як да часу і кіруюцца прынцыпам «жыць, як набяжыць». Яны ўжо ўсведамляюць, што свет рухаецца наперад па сваіх, незалежных ад іх волі і жаданняў законах, і лічаць, што зазіраць у заўтрашні дзень — марная справа: чалавек часцей за ўсё не ведае нават таго, што чакае яго праз хвіліну.**

**На гэтай вузкай пляцоўцы разгортваюцца драматычныя падзеі: выходзіць замуж за нялюбага, але багатага Ладака Радзюка маладая жанчына Ваця; пакідае родную сядзібу, на якой ужо цесна двум братам, і ідзе ў найміты Імполь; гінуць, ачышчаючы за капейкі цыстэрну з-пад бензіну, падзёншчыкі Сяргей Рэпка і Восіп; у бойцы за кавалак хлеба гіне вясковы хлопец Сямён Качарга; збіваюць да крыві ў пастарунку Міцю Корсака за знойдзеныя ў яго вершы на беларускай мове; штовечара сварацца ў хаце Кумагераў... Брат ідзе на брата, чалавек забівае чалавека, вёска варагуе з вёскай — тыповы малюнак заходнебеларускай рэчаіснасці, і аўтар узнаўляе яе поўна і дакладна.**

**На фоне падзей, якія адбываюцца ў Верасаве і яго наваколлі, паказваецца, шматразова адлюстроўваючыся і множачыся ў сэнсавых адносінах, гісторыя Алесі Мондрай.**

**Разумная і прыгожая Алеся ўжо ў юнацтве падсвядома адчувае, што спрадвечны вясковы побыт такі бедны і мізэрны, што не можа задаволіць нават простага чалавека. Яна здагадвалася ў душы, што ёсць нейкае іншае жыццё, не падобнае да таго, якім жывуць людзі побач з ёю. Песцячы сваю мару, яна адмаўляла вясковым хлопцам, калі прыязджалі сватацца, пакуль не пастарэла. Пасля вымушана была пайсці замуж за нізкарослага Мондрага, хоць і не любіла яго. Думала, што прывыкне, але не прывыкла. Нават дзіця не хацела мець ад яго — задушыла ў сабе і нарадзіла мёртвае.**

**Такім чынам, у той жорсткай бязвыхаднай рэчаіснасці ад высокай мары да злачынства адзін крок. А адно злачынства цягне за сабой другое. Атруціўшы пасля мужавай смерці сваю свякроў і залувіцу, каб ніхто не перашкаджаў ёй жыць шчасліва з Імполем, Алеся не можа ўжо быць шчаслівай, яна душэўна скалечаны чалавек, таму што выбрала злачынства як сродак барацьбы за існаванне.**

**Імполь адчужаецца Алесі, здагадваючыся, што гэта я[illegible]труціла свякроў і залувіцу, і горнецца да маладой, шчырай Хрысці.**

**Жыццёвы лёс Алесі не выключэнне. Урэшце, кожны чалавек у тым сацыяльным становішчы мог уладкаваць нeяк свой дабрабыт толькі за кошт іншых, толькі наступаючы на горла сваім блізкім, спіхваючы ўсіх, хто станавіўся на дарозе. Вось і Радзюк перажывае драму. Зарабляючы грошы на шахтах Францыі, каб купіць потым зямлі, страціў здароўе. Але з купленай зямлі няма радасці, бо яна дасталася чужому чалавеку — нявестцы. Сын памёр ад сухотаў — і ўсёй гаспадаркай па-свойму стала распараджацца нявестка, не зважаючы на бацькоў мужа.**

**У рамане «Чужая бацькаўшчына» ёсць вельмі значны па сэнсу эпізод, дзе яскрава раскрываецца сацыяльнае становішча працоўнага чалавека пры буржуазных парадках. Бедныя сяляне з навакольных вёсак прыходзяць на чыгуначную станцыю, каб зарабіць трохі на разгрузцы вагонаў. Але працы мала, а грузчыкаў шмат. І вось каб захапіць права на разгрузку, вёска на вёску ідзе вайной. І вынік — забіты чалавек, такі ж бедны, як і тыя, хто яго забіў.**

**Капіталізм разбураў патрыярхальную вёску, змушаючы жорсткімі абставінамі жыцця да кампрамісаў і маральных хістанняў, прывіваючы чалавеку звярыны эгаізм, які штурхаў яго на злачынствы. Эгаістычны разлік, пагоня за выгадай, што складае самую сутнасць капіталістычных узаемаадносін, рвуць крэўныя сувязі, адчужаюць людзей, пазбаўляюць сумлення, спагады і шчырасці.**

**Але разам з тым нельга сказаць, што ўсё так безнадзейна ў жыцці людзей, у жыцці герояў рамана. Напрыклад, Міця Корсак, брат Алесі Мондрай, хоча вырвацца як-небудзь з таго жыцця, дзе няма ніякай прыгажосці, дзе ўсюды цяжкі, нецікавы побыт, прыземленасць пачуццяў, мізэрнасць думак.**

**Міця чытае газеты, піша вершы па-беларуску. Літаратурная творчасць Міці пакуль што, па ўсім відаць, невысокага ўзроўню. Але гэты юнак з тых, хто адчувае жыццё, як раніцу, якая абяцае цяпло і сонца.**

**У жыцці герояў рамана «Год нулявы» наогул усё сплялося, зблыталася, і разабрацца, дзе дабро, а дзе зло, дзе грэх, а дзе збавенне, амаль немагчыма. Але самая вялікая супярэчнасць заключаецца ў тым, што людзі, жыццё якіх звялося да побыту і гаспадарчых клопатаў, рвуцца душой да свабоды, справядлівасці, прыгажосці, маральнасці. Яны пакідаюць межы «чалавечай перадгісторыі» і выходзяць на арэну самой гісторыі, каб нароўні з іншымі народамі вырашаць важныя агульныя праблемы. Яны сапраўды пачынаюць з нуля ці амаль з нуля (ці не ў гэтым сэнс назвы «Год нулявы»!)— да такога стану агульнага заняпаду давёў іх свет уласніцтва.**

**Праўдзіва, часам жорстка, аголена-востра апавядаючы пра адзін з самых драматычных момантаў беларускай гісторыі, пісьменнік сцвярджае думку пра немінучасць рэвалюцыйнага абнаўлення свету і пра веліч выбару, які зрабілі беларусы ў верасні 1939 года, калі працоўныя Заходняй Беларусі ўвайшлі ў адзіную сям'ю савецкіх народаў. Гэта яшчэ адно яркае мастацкае сведчанне гістарычнай праваты і мудрасці народа і яшчэ адзін пераканаўчы адказ на карэнныя пытанні нашай сучаснасці.**

**Вячаслаў АДАМЧЫК**

# ГОД НУЛЯВЫ

## II

Новы, выштукаваны пад нямецкі вугол дом з цынкавым дахам і расхрыстанымі белаdensнябескімі аканіцамі хаваўся ў цяньку пад ружаватымі старымі хвойкамі.

Ад бляшанага даху ў вочы калола сляпучая яснасць. У адчыненай палавінцы акна на жывым скразняку самлела ўздыхала накрухмаленая фіранка. На завостраны шчыкетнік плота сонна наваліўся жоўты куст акацыі. Ціхім рахманым гудам над ім звінелі ўвішныя пчолы, чапляліся на высалапленыя язычкі кветак. Ад куста, як ад нагрэтага ў полі лубіну, пахла цёплай пясчанай зямлёю, запыленымі калматымі пчоламі, густым духам вулляў.

За непрычыненай брамкаю на высланым з цэментовых пліпак ходніку паблісквала нікеляванымі спружынамі і воськамі дзіцячая каляска.

Абапал ходніка чарнелі ад свежай тлустай зямлі выкладзеныя пастаўленымі на кант цэгламі пукатыя вочы двух кветнікаў. Вострымі верацёнамі на іх вытачыліся пасынкі невядомых кветак. Чужым і невядомым жыццём дыхнула на Хрысцю ад гэтага новага дома з прыгожым разным ганкам, ад чысцюткага дагледжанага надворка. За сухім шклом вокнаў, за сіняватым дымам гардзін, зашморгнутых на шнуркі фіранак з выстрыгаванымі кветкамі, хавалася таемнае пекнае жыццё. І Хрысцю скамяніў раптоўны сполах. Чула, як макрэе ад халоднага поту ўся.

Крадком адступіўшыся ад расхрыстаных веснікаў, стаілася за прывялым на гарачыні кустом акацыі, каб перачакаць, покуль пералекаціць гэты страх.

Азіралася назад, туды, на рог плота, за якім ужо хавалася, трасучы сваімі сівымі злінялымі валасамі, Суля, што прывяла Хрысцю сюды, да гэтага дома з ганарыстым высокім дахам.

І Хрысця ўспомніла, як млела яна і ад гарачыні, і ад сарамяжлівасці ўчора, калі, ачуціўшыся ў Дварчанах, хадзіла па брукаваных сонных вуліцах, назіркам прыглядаючыся да чужых маўклівых вокнаў, і ніяк не магла дабраць хаты, каб зайсці і спытаць, каму трэба служанка ці нянька да дзіцяці.

Нейкі сорам і брыдкасць адбіралі адвагу, і Хрысця, прыпыніўшыся на міг перад зашчэпленымі веснікамі, скоранька ішла далей, чуючы на сабе зірк цёмных патайных вокнаў. Змораная наўнэт і збітая з панталыку, што ёй рабіць і куды дзецца — няўжо ісці ў Ведравічы, дадому? — яна раптоўна натрапіла на нізенькую з лазовым шчыткам і саламянаю абамшэлаю страхою хатку і, учуўшы нейкі ратунак, скіравала на другі бок вуліцы да раз'еханых непрычыненых веснікаў. На парозе хаткі, трымаючы на прыполе гліняную міску з забеленым крупнікам, палуднавала старая гаспадыня ў карычневай камізэльцы.

Каля парога, збіўшыся ў купу, тапталі і дзяўблі адна адну жоўтыя вялікія куры, мусіць, не падзяліўшы тую каліву крупніку, што плюхнула з лыжкі старая. Вялікая з чачоткавым грэбенем і калматымі нагамі курыца, адганяючы, дзяўбла ў голаў маладую рабенькую шурпу.

Угінаючы голаў і прысядаючы, тая верашчала на ўвесь надворак, але не адбягалася.

— Ах, каб на цябе нарат, заб'еш, — махнула рукою старая, ратуючы маладую, рахманую, з натапыраным пер'ем курыцу, і ўжо закрычала на яе: — А ты стаіш, незграбаць!

Хрысця прыпынілася, чакала, покуль яе, мусіць, убачыць старая, але тая гаварыла да чубатае курыцы.

— Глядзіш, дэба, каб ты вочы ўставіла. Усё б'ешся, збрыдзела ты мне, нябось, пакладу голаў на калодку.

Зачэрпнуўшы гушчы, старая ізноў плюхнула на малады ружаваты спарышнік лыжку крупніку — туды наперабой, адна перад адною, кінуліся куры — і падняла чырвонае заплаканае вока на Хрысцю: з ніжняга, вывернутага века на шчаку сачылася сляза.

— Ці патрэбна вам?.. — Хрысця спатыкнулася на астатнім слове.

— Што, дзеткі, кажаце? — старая рукою сагнала слязу.

— Наймічка ці патрэбна вам?

— Пытаеш у хворага здароўя, — старая нагнулася над міскай. Хрысця стаяла збітая з тропу, не ведаючы, што і казаць далей.

— Яна пытае наймічку, — старая выплюхнула з міскі астатак крупніку ў грумадку курэй і паднялася з парога. — У багатых трэба пытаць. У каго грошы, той і пан. Таму выгоды і наймічкі і шнаймічкі трэба. Спазнала гэтакую долю. Покуль малады — усім прыгодны. А стары — то й сабе збрыдзееш. Ані руху ў мяне, ані разгавору. Во бачыш, якавая стала. Дзе ўсё тое дзелася, а была ж такая, як і ты, — маладзенькая. З'елі маю маладосць...

Хрысця маўчучы слухала горкае нараканне на няўдачную долю — чужым жалю было нешта б[illegible]ае Хрысці, і сэрца здушыла свая і гэтая чужая, змешаная з кіпячымі слязьмі крыўда.

— Да свінабояў падыдзі, або во — да жыда, у цукерню да Сулі зай[illegible] — старая прыціснула да [illegible] пустую міску, выскрабла [illegible]ам каліву крупніку, аблізала драўляную шчарбатую лыжку і сказала крышку шапялявым ад бяззубага рота галасам:

— Сіраціна, знаць?

Ад гэтае раптоўнае здагадкі ў Хрысці растапіўся скамянелы холад, на вачах запяклі слёзы.

— Знаць, не салодкая доля прыгнала цябе. Ой, знаць.

Хрысця, разжаленая наўнэт, кінулася да веснікаў, не бачачы за слязьмі свету, вышмыгнула на вуліцу, чула, што яе яшчэ нанач клікала старая. Убачыла, што сюды да веснікаў ідзе, трымаючы на плячы доўгае гарэхавае вудзільна і памахваючы за хвосцік лазіны вянком серабрыстае рыбы з чырвоным пер'ем, той самы чалавек, што зімою разам з Імполем маладзіў у Мондравай Алесі, завярнула ў другі бок.

Да Сулі ў цукерню яна прыйшла счакаўшы, покуль не высахнуць слёзы і не астыне на сподзе душы, не асядзе чорны, як каламуць, і пякучы жаль.

Доўга хадзіла па ўсыпанай конскімі жаўтлявымі яблыкамі вуліцы, потым прыпынілася каля выбеленых мураваных крамаў, дзе драмалі, чуючы пах вэнджаных шынкаў ды кілбасаў, валачашчыя сабакі і дзе млелі папрывязваныя да плота ляйчынамі некалькі фурманак. Цярпліва і панура чакаючы, покуль управяцца з пакупкамі размораныя непаваротлівыя гаспадары, змучаныя на вясновым ворыве худыя вясковыя коні нехаця адмахваліся ад мух, пазвоньваючы цуглямі, траслі грывамі. Скура на іх нервова ўздрыгвала — коней дацінала раз'юшаная заедзь. На заднім возе, што стаяў напроці дашчанага ганка, разлёгшыся ў саломе, пыхкаў папяросаю расчырванелы пасля гарачае гарбаты ці мо скупое чаркі маладжавы, нечым нават падобны да Імполя мужчына, дзюбаносая маладзіца ўтоптвала ў воз тоўсты, звязаны выцвілаю хусткаю ванзэлак — куплены мо сабе на блузку паркаль ці танны, дзецям на порткі, корт.

Спатыкнуўшыся на цэментовым ходніку і заглядваючы ў твар дзюбаносай маладзіцы, Хрысця спытала, ці тут будзе Суліна цукерня.

— Ага, тутака яна,— махнула дзюбаносым тварком на дашчаны ганак маладзіца.

Хрысця яшчэ раз азірнулася на маладжавага, падобнага да Імполя, бо глядзеў гэтаксама спадылба, мужчыну і зайшла ў цукерню. Цёплы, перамешаны з карыцаю пах маладых пухкіх булак ды шапаткіх цукерак зварухнуў голад: толькі цяпер Хрысця ўспомніла, што ранічкаю ўхапіла лыжку жытняй, забеленай заціркі.

У цеснай цукерні, у духаце, прэлі адны мужчыны і з імі маладая смуглявая, з сінімі вочкамі маладзіца. І Хрысця сумелася, пазнаўшы па ліловых, як слівкі, гузах на галаве, калі ён падняў, папраўляючы, кепку, таго высокага мужчыну, што быў у Ведравічах на хрэсьбінах.

Ён прыходзіўся нейкім сваяком. Якім — Хрысця нават не ведала. Але страх браў пра адно — каб ён хоць не пазнаў яе, і збітая з тропу, не ведала, што рабіць: ці аставацца тут, у цукерні, ці вышмыгнуць на двор.

Яна адвярнулася, паклала на падаконнік свой пакунак — усё, што паспела выхапіць з куфра, уцякаючы ад Корсакаў,— глядзела ў акно, на ясную, залітую сонцам вуліцу, нічога там не бачачы, толькі чула спіною, што каля прылаўка таўчэцца і гаворыць гучным, трохі сіпатым голасам мужчына з ліловымі, нарванымі ад натугі гузамі. У шыбу акна білася і падала на падаконнік вялікая муха.

Баба, накупляўшы дадому гасцінцаў — па жмені рачкоў-цукерак ды па пахкай булцы з вочкамі-разынкамі,— высунулася з цукерні, забіраючы і гэтага мужчыну з нарванымі гузамі. І ў Хрысці адлягло, пэмякчэла на душы. За грукам дзвярэй у цукерні раптам вырасла вялікая пустая сцішанасць. Толькі ў шыбу сослепу білася і падала на шуфляду акна вялікая чорная муха.

— Вуй, забі яе, забі! Цэлы дзень жыць не дае! — распяразваючы на сабе фартух, сюды з-за прылаўка вышчамілася тоўстая Суля.

Хрысця падняла свой лёгкі пакунак, махнула ім.

Муха, раз'юшана пабіўшыся ў акно, бзыкнула недзе назад за прылавак, стаілася ў нішы палічак.

— Во і ніяк не зніштожу,— Суля лупаватым вокам зіркнула на Хрысцю і паволі пакалывалася за прылавак, спытала адтуль: — Ну што? Ну чуеш, што маўчыш?

— Людзі нараілі да вас зайсці,— Хрысця пацерабіла рукамі свой пакунак.

— Людзі,— хмыкнула і затрасла сытым падбароддзем Суля. — А ці ўсе цяпер людзі? Пальцы на руцэ і тыя не роўныя, але які ні адсячы, кожны баліць. А што, не? Чуеш, не?

— Мусі, кожны,— кіўнула Хрысця.

— Што, няпраўду кажу? — Суля зноў скрыва зірнула на Хрысцю. — І табе нешто ж во баліць. А мо не?

— Дзецца няма дзе. — Хрысця ўчула, як зноў сухая балючая гарачыня сцяла дых. — У наймічкі, можа, хто возьме.

Суля чапіла вагі — адзін перад адным пляскатымі дзюбкамі замахаліся крута выгнутыя, як у коней, шыйкі вагаў,— падняла на Хрысцю рудыя вочы:

— У наймічкі?..

— Усё рабіцьму.

— А што ўмееш рабіць, што?

— Дзяцей даглядацьму.

— Яна кажа — дзяцей. Ты глядзі, яна кажа — дзяцей. А сама ты хто? — зноў затрасла цяжкім двайным падбароддзем Суля.

(Працяг будзе).

# ДАР, НЕПАДУЛАДНЫ ЧАСУ

Вечныя ідэалы — праўду і свабоду, годнасць, сумленне, гонар — прынёс у наш век Пушкін. І з гэтымі каштоўнасцямі крочыў ён у будучыню, абуджаючы пачуцці добрыя ў новых пакаленнях, назаўсёды застаючыся іх духоўным настаўнікам.

150 гадоў назад выстрал на Чорнай рэчцы абарваў жыццё паэта. Але жыве яго маральнае завяшчанне — яго творчасць. Нацыянальная па сутнасці сваёй, яна належыць усяму чалавецтву.

Аддаць даніну памяці вялікаму сыну Айчыны сабраліся 10 лютага ў Маскве, у Вялікім тэатры Саюза ССР прадстаўнікі партыйных, савецкіх і грамадскіх арганізацый, працоўных калектываў, дзеячы літаратуры і мастацтва. Сярод удзельнікаў вечара быў Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў.

Урачыстае пасяджэнне адкрыў старшыня Усесаюзнага камітэта па правядзенню Дзён памяці А. Пушкіна, міністр культуры СССР В. Захараў. Выступілі паэты Ягор Ісаеў, Барыс Алейнік, народны пісьменнік Кіргізіі Чынгіз Айтматаў, грузінскі паэт, акадэмік Іраклій Абашыдзе, народны артыст СССР, кампазітар Георгій Свірыдаў, іншыя дзеячы мастацтваў.

Літаратурна-музычныя вечары, мітынгі прайшлі ў сталіцах саюзных рэспублік, у многіх гарадах і вёсках краіны, яны сведчылі аб бязмежнай любві народа да свайго паэта—да Пушкіна. Змяняюць адзін аднаго новыя пакаленні, але яго паэзія ўсё гэтак жа блізкая і зразумелая кожнаму. Для нас Пушкін — наш сучаснік, шчыры друг і мудры дарадчык, задушэўны субяседнік. У Беларусі яго творы выдаваліся 55 разоў агульным тыражом 4 мільёны 72 тысячы экземпляраў. І ні адна кніга не заляжалася на паліцах.

Урачысты вечар, прысвечаны памяці паэта, адбыўся таксама і ў Мінску. Яго адкрыў народны паэт Беларусі, лаўрэат Ленінскай прэміі, Герой Сацыялістычнай працы, паэт Максім Танк. Са словам аб творчасці Пушкіна, яго ўплыве на лёс іншых літаратур выступіў віцэ-прэзідэнт АН БССР Іван Навуменка. Аб значэнні Пушкіна для нашага сучасніка, аб працягу яго традыцый гаварылі вядомыя беларускія літаратары, майстры культуры, рабочыя.

У заключэнне ўдзельнікам вечара была паказана опера Чайкоўскага «Яўгеній Анегін».

---

## АХОВА І ВЫКАРЫСТАННЕ ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ

# АД МІНУЛАГА НЕЛЬГА АДМАХНУЦЦА

У ВЁСЦЫ Кунцавічы Ашмянскага раёна жанчына для асабістых гаспадарчых патрэб разабрала і перанесла на свой двор капліцу XVIII стагоддзя. Зрабіла яна гэта з ведама мясцовых органаў улады не шэсцьдзесят і не трыццаць гадоў назад. Усё здарылася зусім нядаўна. Факт прыводзіўся ў час работы V з'езда Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, што праходзіў летась у Мінску ў канцы года. Гаворка на ім ішла прынцыповая і часта бесстаронняя. Бо інцыдэнты, падобныя да кунцавіцкага, на жаль, сёння яшчэ не адзінкавыя. І гэта выклікае ў грамадства не толькі справядлівае абурэнне, але і адпаведныя меры ў адказ, каб прадухіліць такія здарэнні.

Як вядома, Савецкі Саюз — краіна, дзе нават у Канстытуцыі ёсць спецыяльны артыкул, які абавязвае дзяржаву ахоўваць матэрыяльную культурную і гістарычную спадчыну, пакінутую нам папярэднімі пакаленнямі. Адпаведны артыкул уключаны і ў Канстытуцыю Беларускай ССР. Ва ўсесаюзным і рэспубліканскім маштабах прыняты Закон «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры». Такім чынам створана адзіная дзяржаўная сістэма аховы рэліквій мінулага. Зроблена гэта амаль дваццаць год назад. Але ў 1984 годзе Савет Міністраў БССР быў вымушаны разгледзець пытанне аб фактах парушэння ўзгаданага вышэй заканадаўства. Прайшло два гады, але зноў у кожным выступленні, што прагучалі на з'ездзе Таварыства, чуліся трывога і заклапочанасць сучасным станам аховы помнікаў.

Як жа сёння складваецца ў нас сітуацыя з аховай помнікаў гісторыі і культуры? Пракаменціраваць гэтае пытанне я папрасіла кандыдата гістарычных навук Алега Трусава, чалавека, які прымае непасрэдны ўдзел у цікавых археалагічных даследаваннях, што праводзяцца на Беларусі, кіруе многімі з іх. Працуе ён намеснікам загадчыка праектнага бюро рэспубліканскага навукова- вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя».

— На жаль, да апошняга часу пра Беларусь не прыходзілася гаварыць, як пра ашчадную і дбайную гаспадыню сваіх помнікаў. Безумоўна, яны вывучаліся, даследаваліся, некаторыя пацікху рэстаўрыраваліся. Але ўсё гэта рабілася далёка не ў тых маштабах, якіх патрабуе гэтая няпростая справа. Па-першае, адыгрывала ролю тое, што рэспубліка амаль на працягу ўсяго свайго існавання павінна была ў першую чаргу вырашаць праблему аднаўлення гаспадаркі, будаваць жыллё, фабрыкі, заводы, бальніцы, школы, якія, як, пэўна, ведаюць чытачы газеты, не адзін раз знішчалі ворагі. Можна казаць тут і пра «спадчыну», пакінутую царызмам і першай сусветнай вайной, белапольскімі акупантамі і, нарэшце, пра той страшэнны ўрон, што нанеслі нам гітлераўскія варвары. Для аднаўлення разбуранага былі патрэбны грошы і сілы. Вялікія грошы і вялікія сілы. Гэтага нельга не ўлічваць.

Але не будзем адмаўляць і тое, што непасрэдны выканаўцы прынятага закона аб ахове



помнікаў вельмі часта аказаліся, як кажуць, не на вышыні. Недаацэнка важнасці справы недысцыплінаванасць у выкананні прынятых рашэнняў урада прывялі да таго, што Беларусь назаўсёды згубіла некаторыя каштоўныя помнікі мінулага. На з'ездзе першы намеснік міністра культуры рэспублікі Уладзімір Гілеп, гісторык, археолаг, які мае багаты вопыт даследчыка, з болем гаварыў, што «ў рэспубліцы сёння каля 8 тысяч помнікаў гісторыі і культуры знаходзяцца ў дрэнным тэхнічным стане і патрабуюць тэрміновай кансервацыі».

— Алег Анатольевіч, такім чынам, становішча бачыцца толькі ў змрочных фарбах...

— Зусім не. Калі прасачыць, як яно мянялася на працягу апошніх дзесяці гадоў, у будучыню можна глядзець з аптымізмам. Сёлета на рэстаўрацыю помнікаў гісторыі і культуры выдзелена амаль 4 мільёны рублёў. Гэта сума і надалей будзе расці: у апошні год пяцігодкі яна складзе ўжо 10 мільёнаў рублёў. Праўда, што тычыцца грошай, то іх хапала і раней, галоўнае, з-за чаго цярпела справа, — адносіны людзей да яе, недахоп спецыялістаў і патрэбных будаўнічых матэрыялаў. Сёння і тут значныя зрухі. Дарэчы, з наступнага навучальнага года ў Беларускім політэхнічным інстытуце адкрыецца спецыяльная кафедра архітэктараў-рэстаўратараў. Усё гэта абнадзейвае.

А зараз хачу ўдакладніць сказанае Алегам Трусавым: ад каго ж канкрэтна ў рэспубліцы залежыць поспех надзвычай важнай справы захавання і выкарыстання помнікаў. «Тэхналагічны» ланцужок складаецца наступным чынам.

Непасрэдны пошук і ўлік помнікаў гісторыі і культуры на тэрыторыі рэспублікі вядуць спецыялісты Інстытута гісторыі і Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР. Яны ж і вывучаюць некаторыя з помнікаў: арганізоўваюць археалагічныя раскопкі, даследуюць «нерухомыя» манументальныя помнікі. Спісы помнікаў з ацэнкай іх стану і каштоўнасці атрымлівае рэспубліканскае Міністэрства культуры, якое мае спецыяльнае падраздзяленне — навукова-вытворчае аб'яднанне «Белрэстаўрацыя», дзе кваліфікаваныя спецыялісты і займаюцца непасрэдна аднаўленнем і рэстаўрацыяй помнікаў.

Хто выдаткоўвае на такую работу грошы? Міністэрства, добраахвотнае таварыства аховы помнікаў. Але галоўная сума паступае ад заказчыкаў, якімі могуць быць мясцовыя і абласныя Саветы, фабрыкі, заводы, нават бальніцы. Здавецца, навошта фабрыцы муры старога замка? Адказ нескладаны. Вельмі часта працоўныя калектывы, прафсаюзныя камітэты прадпрыемстваў маюць намер зрабіць у аднойленых помніках свае Палацы культуры, дамы адпачынку, пансіянаты. Выканкомы гарадскіх ці раённых Саветаў выкарыстоўваюць памяшканні архітэктурных помнікаў для новых музеяў, канцэртных залаў, карцінных галерэй. За прыкладамі далёка хадзіць не трэба.

Упершыню з такой мэтай была выкарыстана Спаса-Праабражэнская царква ў старажытным Заслаўі, што знаходзіцца ў паўгадзіне язды ад Мінска. Яна была рэстаўрыравана ў 1967—1971 гадах, і зараз у ёй месціцца філіял Дзяржаўнага музея БССР. Можна прыгадаць былы замак Радзівілаў у Нясвіжы, дзе створаны санаторый, у касцёле Святога Роха на Залатой горцы ў Мінску адкрыта канцэртная зала з арганам, у Чырвоным касцёле, таксама ў Мінску, працуе рэспубліканскі Дом кіно, у Багаяўленскай царкве ў Полацку — карцінная галерэя, у полацкай Сафіі — канцэртная зала, у жылым будынку XVIII стагоддзя ў Магілёве — музей мастака Бялыніцкага-Бірулі... Пералічваць можна і далей.

Аб'яднанне «Белрэстаўрацыя» атрымлівае вельмі многа заказаў, нават утвараецца чарга на іх выкананне. І ў значнай ступені яна існуе з-за таго, што не хапае рабочых рук. Гэта праблема на сёння ў рэспубліцы адна з найвастрэйшых: людзям, якія займаюцца рэстаўрацыяй (як вучоным, так і рабочым) патрэбна дадатковая падрыхтоўка. А пакуль становішча выправіцца, на дапамогу прыходзяць энтузіясты-добраахвотнікі, галоўным чынам, моладзь. Мірскі і Лідскі замкі, Полацкі гістарычны комплекс, Троіцкае прадмесце ў Мінску... Тут побач з вучонымі працавалі студэнты, школьнікі, маладыя рабочыя...

Аб узрослай увазе грамадства да высакароднай справы аховы помнікаў нацыянальнай гісторыі і культуры гавораць і выступленні сродкаў масавай інфармацыі — газет, часопісаў, радыё, тэлебачання. Газета «Літаратура і мастацтва», часопіс «Мастацтва Беларусі», бюлетэнь «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі» рэгулярна друкуюць артыкулы гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў, усіх людзей, чыя грамадзянская пазіцыя, патрыятызм не дазваляюць ставіцца абыякава да захавання духоўнай спадчыны свайго народа.

Людзі пішуць аб тым, што іх турбуе, выказваюць прапановы, залучаюць увагу грамадскасці, вучоных да тых помнікаў, якія тэрмінова патрабуюць іх увагі. Напрыклад, у адным з сёлетніх студзеньскіх нумароў газеты «Літаратура і мастацтва» выйшла цэлая такая падборка пад назвай «Дазвольце сказаць мне...»

Культура заўсёды была паказчыкам маральнага здароўя грамадства. Сёння ж яна яшчэ і фактар духоўнага, ідэалагічнага ўздзеяння на розумы і сэрцы людзей, асабліва маладых. І значэнне яе ў гэтай якасці нарастае па меры развіцця чалавецтва. Такім чынам, не толькі ўзбагачэнне культурнай спадчыны, але і захаванне ўжо назапашанага ўсё ў большай ступені становіцца пытаннем першачарговай важнасці. Памяць неад'емная ад чалавека, яго жыцця. У ёй схаваны тыя карані, што звязваюць нас, сённяшніх, з папярэднікамі. А ад мінулага нельга адмахнуцца.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

**НА ЗДЫМКУ: былы брыгіцкі касцёл у Гродне. Першая палова XVII стагоддзя. Тут будзе адкрыта канцэртная зала.**

**Фота В. ДУБІНКІ.**

---

## *ПРЭМ'ЕРЫ, ВЫСТАЎКІ, СУСТРЭЧЫ*

### НОВАЯ РАБОТА НАРОДНАГА ТЭАТРА

*У Рагачоўскім народным тэатры адбылася прэм'ера: пастаўлена аднаактовая п'еса Вольгі Іпатавай «Памяць у крэдыт», якая ўзнімае маральныя пытанні, услаўляе сумленнасць, працавітасць, дабрату... На першым паказе спектакля ў раённым Доме культуры прысутнічала аўтар — паэтэса і драматург Вольга Іпатава. На сустрэчы з гледачамі госця расказала пра свой творчы шлях, адказала на пытанні.*

### ЮБІЛЕЙ ГОРАДА

*Слаўгараду — 850 год. Гэтую знамянальную дату шырока адзначылі ў горадзе. Была падрыхтавана вялікая канцэртная праграма з удзелам народнага хору раённага Дома культуры і шматлікіх самадзейных калектываў вёсак, працавала выстаўка лепшых работ народных умельцаў, адбылися карнавальнае шэсце і вечар, прысвечаны творчасці пісьменнікаў-землякоў. Да юбілею самадзейны кампазітар В. Барысенка напісаў песню «Слаўгарад наш».*

### У ГАСЦЯХ У СЕЛЬСКІХ ШКОЛЬНІКАЎ

*Вучні і настаўнікі Праўдзінскай сярэдняй школы Мінскага раёна сустрэліся з пісьменнікамі Васілём Віткам і Уладзімірам Дамашэвічам. Госці пазнаёміліся з літаратурна-драматычнай кампазіцыяй па вершах і п'есе «Маці ўрагану» У. Караткевіча ў выкананні старшакласнікаў, паслухалі вершы і казкі В. Віткі, якія прачыталі вучні малодшых класаў.*

### СВЯТА «ЧАРАЎНІЦ»

*Споўнілася дзесяць гадоў народнаму эстрадна-харэаграфічнаму ансамблю «Чараўніцы» работнікаў гандлю Мінска, якім кіруюць з дня заснавання заслужаныя артысты БССР Раіса і Мікалай Красоўскія. За гэтыя гады ў «Чараўніц» было нямала памятных падзей, сярод якіх удзел у канцэрце ў Крамлёўскім Палацы ў Маскве і ў XII Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў.*

*Сваё дзесяцігоддзе калектыў адзначыў канцэртам на сцэне Белдзяржфілармоніі. У ім выконваліся харэаграфічныя кампазіцыі «Беларусь мая сінявокая» на музыку І. Лучанка, «Балеро» М. Равеля, «Танец з шаблямі» А. Хачатурана, іншыя творы.*

### ВЫСТУПАЮЦЬ «УНУКІ»

*Фальклорныя вечары ў Доме літаратара — не рэдкасць. І трэба сказаць, што кожны з іх прыносіць задавальненне аматарам народнага мастацтва. Так было і на гэты раз, калі прысутныя змаглі пазнаёміцца з новай праграмай харэаграфічнага ансамбля «Унукі» Мінскага інстытута культуры. Фальклорна-харэаграфічная кампазіцыя «Каляда ідзе» — яркае, непаўторнае відовішча, у якім узноўлены народныя традыцыі, жывуць сама мудрасць і досціп народа, раскрываецца невычэрпныя магчымасці танца.*

## ЛЮТАЎСКІЯ ЗАМАЛЁЎКІ

# БАКАГРЭЙ

Ідзе люты, месяц завей, мяцеліц і снежных заносаў. Цяжкія шапкі снегу прыгнулі галіны дрэў. Навокал пануе цішыня. У чыстым марозным паветры — тонкі пах прамёрзлага дрэва, хвоі, кары і снегу. Пад парывам ветру мякка падаюць з дрэў іскрыстымі зорачкамі сняжынкі. Паступова мацнеючы, вецер з завываннем намятае вялікія гурбы, заносячы кусты і невысокія дрэвы, раўняючы ў полі дарогі.

Асабліва цяжкі гэты месяц для дзікіх звяроў і птушак. Насельнікі лесу стараюцца схавацца ад пранізлівага ветру і снежнай крупы, якая засыпае сцежкі звярыных слядоў. Люты — час сапраўды лютага холаду і голаду для ўсяго жывога ў прыродзе, і насельнікі лесу ў гэты час маюць асаблівую патрэбу ў дапамозе чалавека. У запаведніках, заказніках, паляўнічых гаспадарках, школьных лясніцтвах падкормліваюць ласёў і аленяў, кабаноў і казуль, зайцоў і баравую дзічыну — цецерукоў, глушцоў, курапатак і іншых.

Але люты прыносіць не толькі холад, снежныя завеі і маразы. Днём іншы раз пахмурнае неба становіцца надзіва глыбокім і сінім, а сонца не па-зімняму яркім і цёплым, за што люты называюць «бакагрэем». Прыгрэе апоўдні сонца — і папаўзуць з елак і соснаў снегавыя шапкі, і на паўднёвым баку не-не ды і з'явіцца нясмелы лядзяш.

І тады весялеюць птушкі, нібы адчуваюць: да вясны недалёка. Больш звонка сонечным поўднем выводзіць сваю першую веснавую песеньку вялікая сініца. Яна прыбралася: чорны гальштук апускаецца аж на брушка і цягнецца да самага хваста. Не адстае ад яе і аўсянка. Сядзіць, прыгожая, на кусціку і складна так выводзіць — сінь-сінь-сінь.

Каля некаторых дрэў ад награтай кары снег пачаў крыху падтайваць. Бывае, што і зусім растае, вось тады над праталінай і пакажуцца кусцікі брусніц, унізаныя зялёнымі лісцікамі, верас і грушанка. Зялёным зімоўшчыкам нядрэнна жывёлося пад снегам, вось і блішчаць яны, свежыя, прыгожыя напераќор сцюжы і мяцеліцам.

Люты — апошні месяц знаходжання ў нашых лясах снегіроў, амялушак, крыжадзюбаў, чачотак. У сакавіку, з надыходам цяпла, яны ляцяць на поўнач. Разам з імі знікнуць і паўночныя совы і махнаногія канюкі.

Праз масавае кальцаванне птушак было выяўлена, што зімой у нас асабліва часта гасцююць снегіры і чачоткі, якіх мінулым летам вучоныя акальцавалі ў Фінляндыі. Зімой у Венгрыі была акальцавана чародка амялушак. Праз год, таксама зімой, адна з іх была адлоўлена ў Белавежскай пушчы. Гэта сведчанне таго, як далёка на поўдзень качуюць амялушкі на зімоўку.

Некаторыя птушкі з набліжэннем вясны паводзяць сябе не зусім звычайна. Паглядзіце на гэтых дзвюх варон, што ўселіся на высокай сасне. Адна з іх энергічна кланяецца, гучна шчоўкае дзюбай. Праз некаторы час птушка змаўкае, і тады другая варона, што сядзіць насупраць, пачынае таксама кланяцца і шчоўкаць. П[...] і даволі доўга ківаюць галовамі, але ні разу не робяць гэта адначасова, яны захоўваюць строгую чарговасць. А ў гэты час іншыя вароны і некалькі галак імкліва пералятаюць з месца на месца. Некаторыя птушкі проста ходзяць па снезе, выпісваючы мудрагелістыя малюнкі слядоў. Раптам адна з іх падскоквае і ляціць над самай зямлёй. Затым ледзь улоўным рухам закранае снег шырока расстаўленым пер'ем крыла, пакідаючы на яго паверхні глыбокія веерападобныя штрыхі. Гэта пачаліся вясельныя гульні ў варон і галак.

Паводдаль чародка сарок расселася на галінах, і час ад часу чуюцца даволі меладычныя адрывістыя гукі, якія нічога агульнага не маюць са звычайным сарочым стракатаннем. Вось адна з птушак сарвалася з дрэва і ў велічным палёце паплыла над палянкай. Сарока робіць некалькі кругоў, усё ніжэй апускаючыся да зямлі. І раптам яна падае на снег, пакідаючы на ім адбітак галавы, шыі, тулава, доўгага хваста і распасцёртых крылаў. Затым у гульню ўступаюць яшчэ некалькі сарок.

На лясной палянцы ўвесь снег вытаптаны заечымі слядамі. Лютаўскімі начамі тут вельмі ажыўлена. Даўгавухія кавалеры на вачах сціплых нявест наладжваюць своеасаблівыя спартыўныя спаборніцтвы: бегаюць, робячы дзівосныя скачкі, палохаюць адзін аднаго і, высвятляючы свае адносіны, нават б'юцца. Аб гэтым гавораць кавалкі заечай поўсці, што дзе-нідзе віднеюцца на снезе.

Люты — пара вавёрчыных гульняў. Грацыёзныя зверкі з верашчаннем і цоканнем бегаюць у вяршынях соснаў і елак, маланкава пераскокваючы з дрэва на дрэва. Затым кідаюцца ўніз і ганяюцца адзін за адным, пакідаючы на снезе дробныя слядкі, ланцужкі якіх перасякаюцца ў самых розных напрамках. У канцы зімы вавёркі пачынаюць харчавацца яловымі пупышкамі. Яны адгрызаюць яловую галінку і выядаюць пупышку. Снег пад дрэвамі ў гэты час усыпаны дробненькімі зялёнымі галінкамі.

Яшчэ ўчора была адліга, а сёння з раніцы мароз. На снезе цвёрды, як шкло, шарпак. Не выпадкова ў другой палавіне лютага цецерукі і рабчыкі баяцца начаваць у снезе. Схаваецца вечарам у снег чародка цецерукоў ці курапатак, а ноччу мароз скуе снежнае покрыва і тады ўся чародка гіне пад ледзяной коркай, не маючы сілы выбрацца наверх. А вось зайцоў гэта радуе. Яны не правальваюцца ў снег і лёгка ўцякаюць ад лісіцы, ваўка.

Кароткі лютаўскі дзень. Не паспее сонейка падняцца з-за сіняга, у сярэбраным інеі лесу, як, хутка-хутка пракаціўшыся па нізкаму выстуджанаму небу, раскладзе на снезе доўгія густыя вечаровыя цені. А к вечару ўдарыць моцны марозік. Зіма не здаецца.

**Аляксандр КУРСКОЎ,**
**кандыдат біялагічных навук.**



## З НАРОДНЫХ ПЕСЕНЬ

## ДУБРОВУШКА ДЫ ЗЯЛЁНАЯ




Дубровушка ды зялёная
Ўсю восень шумела,
Ах, лёлюшкі ды палёлюшкі,
Ўсю восень шумела.

Ўсю восень дуброва шумела,
З лістам гаманіла.
Ах, лёлюшкі ды палёлюшкі,
З лістам гаманіла.

Лісточак мой ты зялёненькі,
Будзіць нам разлука.
Ах, лёлюшкі ды палёлюшкі,
Будзіць нам разлука.

Разлучаць жа нас і з табою,
Снягі ды марозы.
Ах, лёлюшкі ды палёлюшкі,
Снягі ды марозы.

Астануся ды я без цябе
Веццямі шугаці.
Ах, лёлюшкі ды палёлюшкі,
Веццямі шугаці.

## НЯХАЙ БУДЗЕ ПАГОДАЧКА




Няхай будзе пагодачка, (2)
Хай спорыцца работачка.

Пагодачка качаіцца, (2)
Работачка спяшаіцца.

Палуднічкі загудзелі, (2)
Жнейкі есці захацелі.

Жніця, жнейкі, не стаіця, (2)
Не саджаўшы не пойдзіця.

Жніця, жнейкі, ў мяжу, ў мяжу, (2)
Там знойдзіця мёду дзяжу.

## ВЫРАБЫ БЕЛАРУСКІХ УМЕЛЬЦАЎ

На працягу месяца ў Цэнтральным салоне Мастацкага фонду СССР у Маскве панавала незвычайнае ажыўленне. Тут праходзіла Усесаюзная выстаўка-продаж вырабаў народных майстроў усіх саюзных рэспублік краіны. Сотні масквічоў і гасцей сталіцы атрымалі магчымасць набыць творы народных майстроў.

— На нашай выстаўцы-продажы, — гаворыць таваразнаўца салона Г. Азарава, — была шырока прадстаўлена і Беларусь. Вялікую цікавасць наведвальнікаў і пакупнікоў выклікалі традыцыйныя вырабы беларускіх майстроў — разныя шкатулкі, фігуркі птушак і жывёл з дрэва, гаршочкі, гарлачы, посуд, цацкі, свістулькі з керамікі, саматканыя ручнікі, упрыгожаныя нацыянальным арнаментам, шарсцяныя і пуховыя хусткі, прадметы кухоннага ўжытку, выкананыя з вялікім густам. Асабліва спадабаліся ўсім цудоўныя вырабы з саломкі. Адным словам, вырабы беларускіх умельцаў карысталіся вялікім поспехам і попытам. Іх прададзена за дні выстаўкі амаль на 20 тысяч рублёў.

## СПОРТ

У час першынства Еўропы па фігурнаму катанню ў Югаславіі многія мясцовыя газеты выйшлі з загалоўкамі: «Першынство кантынента ці першынство СССР?» І падстава для такіх выказванняў была самая абгрунтаваная. На гэтых спаборніцтвах нашы спартсмены заваявалі 10 медалёў з 12. Асабліва вызначыліся Н. Бесцям'янава, А. Букін, А. Фадзееў, Л. Селязнёва і А. Макараў, якія ўзнагароджаны залатымі медалямі.

На зімнім чэмпіянаце кантынента ў Парыжы таксама ўпэўнена выступілі мужчынскія і жаночыя зборныя лучнікаў Савецкага Саюза. Яны першынствавалі і ў камандным, і ў асабістым заліку. Тут удала выступіла і магіляўчанка Алена Марфель.

Гэта не адзіны поспех беларускіх спартсменаў у апошні час.

Гасцінна прымалі знакамітыя Раўбічы ўдзельнікаў традыцыйных міжнародных спаборніцтваў юных спартсменаў сацыялістычных краін «Дружба». Прыемна, што адзін з медалёў, сярэбраны, заваявала віцябчанка Алена Урбановіч.

А на міжнародных спаборніцтвах па плаванню, якое аднachасова з'яўлялася і зімнім першынством краіны, залаты медаль на дыстанцыі 800 метраў заваяваў мінчанін А. Гайдукевіч.

Футбалісты мінскага «Дынама» адправіліся ў зарубежнае турнэ па Новай Зеландыі. У першых гульнях са зборнай гэтай краіны яны двойчы дамагліся перамог — 2:0 і 3:0.

Адразу дзевяць беларускіх стралкоў сталі кандыдатамі на паездку на чэмпіянат Еўропы (27 лютага — 2 сакавіка), пасля першынства СССР, што прайшло ў Пензе. А найбольш удала страляла тут Ірына Шылава з Гродна. У яе залаты медаль.

Многія мацнейшыя пяціборцы краіны прынялі ўдзел у розыгрышы прыза Савета Міністраў Эстоніі. У напружанай барацьбе перамога дасталася зборнай камандзе Беларусі. Вызначыўся і яе лідэр Г. Пырко, які стаў мацнейшым у асабістым заліку: 5 560 ачкоў.

Кожны дзень беларускія спартсмены дамагаюцца поспеху на спаборніцтвах рознага рангу.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 247